РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

Жыве Беларусь!

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Free Hlybokaye Volne Glebokie

*Дык жа уцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
Янка Купала.

Выдаецца са снежня 1994 года | №4 (36), люты, 2000 года | Кошт па дамове

## ЦЫТАТА НУМАРА

**Годзе крыўду цярпець! Прэч пакуты і здзек!**
**Веру -- збудуцца нашыя мары!**
**Памятай, беларус, што і ты чалавек,**
**Які можа сабой гаспадарыць.**

*Лявон Шпакоўскі-Случанін*
**«Рагнеда»**

## інфармацыйны блок ПРЫСТУПКІ
### падзеі і факты без каментарыяў

Японская фірма Casio прадставіла ў Токіо наручны гадзіннік з уманціраваным у яго лічбавым фотаапаратам. Гэта першы варыянт такой камбінацыі, зроблены на продаж. Да нядаўняга гадзіннік-фотаапарат існаваў толькі ў адзінкавых варыянтах на службе разведкі.

16 студзеня ў Фінляндыі прайшлі прэзідэнцкія выбары. Ніводнаму кандыдату, аднак, у першым туры не ўдалося набраць больш 50% галасоў. У другі тур выйшла 56-гадовая міністр замежных спраў краіны Тар`я Халонен (40% галасоў) і былы прэм`ер-міністр, 45-гадовы Эска Аха (34% галасоў). Магчыма, што ў Фінляндыі прэзідэнтам будзе жанчына.

У Вільні адкрыты цэнтр прадстаўніцтва Чачэнскай рэспублікі. Галоўная яго мэта ў распаўсюджванні інфармацыі аб стане спраў у Чачні. Як паведаміла агенства BNS, парламенцкая група Літвы па сувязях з Чачнёй патрабуе спынення членства Расіі ў АБСЕ і ў Савеце Еўропы. Літоўскія парламентарыі «выказваюць пратэст супраць забойства Расіяй мірных чачэнцаў і выкарыстання ў ходзе ваенных дзеянняў хімічнай зброі». Некаторыя літоўскія дэпутаты выказваюцца за тое, каб міжнародныя фінансавыя арганізацыі не дапамагалі Расіі, бо шматлікія сродкі такой дапамогі могуць быць выкарыстаны ў вайне з Каўказам.

На прапанову сацыёлагаў ацаніць фінансавы стан сваіх сем`яў 49% рэспандэнтаў рэспублікі адказалі, што ім «ледзь удаецца зводзіць канцы з канцамі», 8% апытаных «залезлі ў даўгі», а 9% вымушаны карыстацца сваімі зберажэннямі. 29% рэспандэнтам удаецца «крыху» адкладваць грошай і толькі 2% адкладваюць «шмат».

Усяго пару тыдняў пратрымаўся эфект ад банкаўскага хода, які зраўняў курс куплі-продажу валюты ў афіцыйных абменніках з курсам «чорнага рынку». Але валютчыкі зноў перахапілі ініцыятыву, бо скупляюць долары па больш высокай цане. Частка абменных пунктаў ужо перастала працаваць. Долар на «чорным рынку» ўжо вагаецца ў межах ад 830 да 900 рублёў. А што будзе вясной?

Сцяг Перамогі, які быў ўстаноўлены над рэйхстагам у 1945 годзе, будзе дастаўлены ў Мінск напярэдадні 9 мая. Згода расійскіх улад на гэту акцыю была атрымана пасля таго, як Ельцын і Лукашэнка падпісалі дагавор аб стварэнні саюзнай дзяржавы. У сталіцы Беларусі сцяг пранясуць па галоўнай магістралі горада, а затым змесцяць у вітрыне музея гісторыі Айчыннай вайны.

Гродзенскі аблвыканкам прыняў рашэнне «Аб старастах сельскіх населеных пунктаў» і зацвердзіў адпаведнае тыповае палажэнне. Згодна яго, старасты павінны садзейнічаць «ажыццяўленню ў жыццё палітыкі, ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці, рашэнняў мясцовых органаў».

У калгасе імя Леніна Чачэрскага раёна на малочнатаварнай ферме ў вёсцы Селянін, у невялічкім пакойчыку, былым чырвоным вугалку, жыве даярка Г. Шаблова з дачкойшасцікласніцай Марынай. Іх выселілі з хаты па прычыне неабходнасці рамонту не прадставіўшы ўзамен ніякага жылля.

Згодна статыстычных дадзеных па Беларусі, у многіх вясковых калодзежах хімізацыя сельскай гаспадаркі стала прычынай павышэння канцэнтрацыі нітратаў, якая ў некалькі разоў перавышае норму.

8 студзеня памёр дастаўлены ў бальніцу жывёлавод саўгаса імя Свярдлова Глыбоцкага раёна. Прычынай смерці стаў спіртавы раствор для лячэння кароў ад «абдування», які выпіў мужчына, не маючы пад рукой якаснай гарэлкі.




Зямля, нібыта поўначы мальберт,
Рукою веі творыць закахана
І на выставу студзеня партрэт
Пад самы люты скончыць апантана.

*Віталь Гарановіч*

## Кожны грае ў сваю дудку

Практычна гатовы Праект выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Ёсць у ім і новаўвядзенні. Так, зняты абмежаванні пры вылучэнні кандыдатамі ў дэпутаты асоб, якія маюць адміністратыўныя спагнанні; зніжаны да 25% парог яўкі выбаршчыкаў у другім туры для прызнання факту адбыцця выбараў; зніжаны патрабаванні пры праверцы подпісаў выбаршчыкаў і г.д. Зроблена ўсё, каб патрэбныя ўраду кандыдаты выйшлі ў дэпутаты, патрэбная колькасць галасоў была набрана без асаблівых праблем з праверкамі. Як гэта ўсё робіцца, падбіраецца і падганяецца, нам, беларусам, добра вядома з савецкіх часоў.

*А. Сцяпанаў.*

## Нацыянальны алімпійскі комплекс у планах

У Беларусі хутка з`явіцца Нацыянальны алімпійскі комплекс, які будзе размяшчацца ў межах вуліц Ціміразева, Радужнай, Нарачанскай і праспекта Машэрава. У яго ўвойдзе комплекс будынкаў і збудаванняў Акадэміі фізічнага выхавання і спорту, штаб-кватэра комплекса з прэс-цэнтрам, канферэнцзалай, музеем Алімпійскай славы, гатэлем, універсальным канцэртна-спартыўным комплексам, «Алімпійская вёска» з дзіцячым садам, школай-гімназіяй са спартыўным ухілам, дзіцячай палікінікай і гандлёва-бытавым цэнтрам.

## Здасі кроў -- купіш паесці

Людзі шукаюць сёння розныя шляхі, каб выжыць, пракарміць сям`ю. Заробкі бываюць розныя. Здача крыві для многіх беларусаў таксама заробак.

Па новых стандартах усе донары атрымоўваюць па 4 тысячы 290 рублёў незалежна ад дозы здадзенай крыві, а па сутнасці, за здачу. Да таго ж, донар атрымоўвае за два рабочыя дні суму, эквівалентную 1,5 мінімальнай зарплаце, плюс расходы на абед -- 45% ад «мінімалкі». Усяго за кроў, якая ў многіх нашых грамадзян зусім не лішняя, яны атрымаюць амаль 8,5 тыс. рублёў.

**Б. Салавей**


Фота А. Ліціна

О край мой, белая старонка, о, Беларусь, не памірай!...
Ты выжывала з песняй звонкай, дык заспявай зноў, заспявай.

*Янусь МАЛЕЦ*


Кастусь Акула, в. Верацеі Докшыцкага раёна, верасень 1994 года.

На днях рэдакцыя «Вольнага Глыбокага» атрымала ліст ад нашага земляка, пісьменніка Кастуся Акулы з Канады. Ён піша: «Памятаю той верасьнёўскі дзень, калі ўдалося хоць паверхоўна пазнаёміцца з цяперашнім горадам (Глыбокім -- *рэд.*), які заўсёды прысутнічае ў шляхах майго юнацтва. Сустрэча з суродзічамі ў глыбоцкай бібліятэцы, Пагоня на фасадзе высокага ўрадавага будынка, святыня, дзе некалі кожны год улетку маліўся з бацькамі на Пятра і Паўла... Усё гэта засталося ў імгле. Мару, што будучыня не пакрыўдзіць, яшчэ ўдасца наведаць вольную і незалежную Беларусь. Прыляцелі да мяне восеньскія нумары «Вольнага Глыбокага». Вельмі дзякую...

Першы раз бачу вёску Станулі (у №10/28 «ВГ» за 1999 г. быў змешчаны здымак гэтай вёскі -- *рэд.*) -- адкуль паходзіла мая мачаха Саламонья. Яна там спачывае. Выдатная жанчына -- яна выпраўляла мяне некалі ў свет і малілася за мяне... Жадаю супрацоўнікам газеты, сваякам маім добрага здароўя...
Жыве Беларусь! З Богам!

К. Акула

## Ахвяры чырвонага «пеўня»

Імі сталі трое непаўналетніх дзетак з вёскі Вярэнькі Пастаўскага раёна. Іх маці, даярка калгаса імя Чапаева, у шэсць раніцы пайшла на працу, пакінуўшы дома адных дзетак. Вярнуўшыся з фермы, яна ўбачыла дым, які ўздымаўся над хатай. У хаце жанчына знайшла мёртвую гадавалую дачушку. Двое другіх дзяцей былі непрытомныя, але іх удалося выратаваць. Гульня з запалкамі -- гэта зусім не жарт.

## Тэлезоркамі не нараджаюцца

Не перастае здзіўляць сваіх землякоў выпускніца Бягомльскай СШ Докшыцкага раёна Людміла Кавалеўская. Спачатку ёй, як актыўнаму аўтару мясцовай райгазеты «Родныя вытокі», прапаноўвалі паступаць на журфак БДУ. Але дзяўчына выбрала факультэт сацыяльнай педагогікі і практычнай псіхалогіі. Зараз студэнтка другога курса сталічнай ВНУ Людміла не парывае сувязяў з журналістыкай. Яна мае пастаянны пропуск у моладзевую рэдакцыю Беларускага тэлебачання, з якой актыўна супрацоўнічае. Ёй нават прадстаўлена магчымасць быць адным з вядучых штотыднёвай інфармацыйна-забаўляльнай праграмы для старшакласнікаў «5 х 5».

## Трагедыя на вадзе

Зараз не лета, аднак, вада адбірае людскія жыцці. Дзве трагедыі адбыліся нядаўна на вадаёмах Браслаўскага раёна. Пасля пікніка на возеры Іказнь малады мячанін, які гасцяваў на Браслаўшчыне, свавольна сігануў у сцюдзёную ваду і на бераг не вярнуўся. Літаральна праз тры дні, пакінутыя без апекі дарослых, некалькі выхаванцаў Опсаўскай школы-інтэрната селі ў лодку без вёсел і пачалі рыбачыць. Калі узмацнелы вецер пагнаў лодку на сярэдзіну возера, прыбіцца да берага з дапамогай палкі ўжо было немагчыма. З жахам хлопцы ў адзенні кінуліся ў ваду. Інтэрнатавец Дзяніс К. не ўмеў плаваць і пайшоў на дно.

Няшчасныя выпадкі на вадзе наўрад ці скончацца. Ца тонкаму лёду людзі зразаюць шлях нават не думаючы, што ён можа стаць апошнім у жыцці. Будзьце ўважлівымі і асцярожнымі!

*Падрыхтаваў У. ШЫК*

**По той бок мяжы**

*Працяг, пачатак №№ 3(21), 4(22), 5(23), 6(24), 7(25), 8(26), 9(27) за 1999 г., №3(35) за 2000 год.*

# Журналісцкія маналогі

 *Галіна СУТУЛА*

**25.**

Сфатаграфавалася ля помніка Тадэуша Касцюшкі.Пабывала ў Радзіміне, горадзе,які 13 чэрвеня наведаў папа Рымскі Ян Павел II і памаліўся на брацкім могільніку, дзе пахаваны жаўнеры, што загінулі за незалежнасць Польшчы ў 1918-1920 гадах. Брацкія магілы ў


Помнік Т. Касцюшку. Фотаздымак Агнешкі Навінскі

Радзіміне дагледжаныя, абсаджаныя кветкамі. Побач - -сучасныя захаванні. Цікава, што ў многіх месцах Польшчы захаванні двухпавярховыя. Магілы не з земляным насыпам зверху, а ў выглядзе высокіх мармуровых скляпенняў, якія адчыняюцца збоку. Зроблена гэта для зручнасці пахавання.

Пабывала я і на могільніку ў Осуфе.Тут пахаваны жаўнеры, якія ў 1920 годзе ваявалі супраць бальшавізма за незалежнасць сваёй краіны.У бітве,якая мае назву «Цуд над Віслай»прымалі удзел 800 ваяроў, з іх 300 загінулі.У большасці, загінуўшыя былі навучэнцамі школ.У тым баі загінуў ксёндз Ігнацій Скарупка. Ён з малітвай выпраўляў юных жаўнераў пад бальшавіцкія кулі.Не засцярогся і сам. Прах ксяндза Скарупкі зна-


Брацкі могільнік у Радзіміне. Фотаздымак Агнешкі Навінскі

ходзіцца ў Варшаве на цвінтары Паванзкоўскім.Імем ксяндза названа школа ў Осуфе.

Чаму ж бітва мела назву «Цуд над Віслай»? Перад адыходам на бой жаўнерам явілася Матка Боская.Гэта яўленне было расцэнена, як Божае бласлаўленне на справядлівы бой.Так яно і здарылася -- палякі ў той бітве перамаглі.

Штогод 15 жніўня на могільніку збіраюцца людзі. Моляцца. Прыязджаюць прадстаўнікі ўлад. Летась, напрыклад, тут пабываў прэм'ер Ежы Бузак.

11 лістапада краіна адзначае Дзень Незалежнасці.У гэты дзень шматлюдна ля помнікаў Пілсудскаму і Тадэушу Касцюшку -- нацыянальных герояў.

Сёння Польшча надзейна стаіць на шляху развіцця і прагрэсу. Пачатак гэтага перыяду палякі адносяць да канца васьмідзесятых гадоў, калі на краіну перастаў уплываць дыктат бальшавікоў. Калі мы дацягнемся да іхняга цяперашняга ўзроўню жыцця і свядомасці -- невядома.

Ну а зараз размова пойдзе пра культурнае жыццё горада.

**26.**

У Валоміне ёсць музей гісторыі і спорту. Пачаў арганізоўвацца музей чорнай Афрыкі і музей культурнай спадчыны.

У Валоміне працуюць два прафесійныя тэатры: «Новы» і «Рампа» з Варшавы. Праз год у касцёле Святога Юзэфа пачне працаваць філармонія.

Сустрэлася я і з загадчыкам літаратурнага музея імя Соф'і Наўкоўскай Цэзарэ Вашчыньскім. Гэты малады чалавек сам піша вершы, ужо назапасіў іх больш двухсот. Запланаваў цыкл новых. Кнігі пакуль не мае, але не траціць надзеі яе выпусціць.Цэзарэ расказаў мне пра літаратурнае жыццё ў Валоміне Літаратурны асяродак горада налічвае 48 ча-


Аўтар матэрыяла «Журналісцкія маналогі» з польскім стражмейскім. Фота Агнешкі Навінскі

лавек -- толькі трое з іх маюць зборнікі.

Акрамя вершаў яны пішуць пастаноўкі, тэатральныя гратэскі, апавяды. Пакуль што многія творы не запатрабаваны. Каб выпусціць кнігу, трэба плаціць самому вялікія грошы ці шукаць спонсараў. Сітуацыя вельмі падобная на стан выдавецкіх спраў у нашай рэспубліцы. Сярод пішучых валомінскіх аўтараў выдзяляецца паэт Міхаіл Антаняк. Ён піша на многіх мовах, мае кнігу. Жыве ў Валоміне і свой кампазітар Лукаш Шамрай, які піша музыку на вершы мясцовай паэткі Гелены Абарыніч, робіць інтэрпрэтацыі на ўжо вядомыя музычныя творы.

Супрацоўнікі музея сабралі багаты матэрыял пра жыццё і творчасць Соф'і Наўкоўскай, а таксама яе бацькі Вацлава, вядомага географа. У музеі амаль сорак кніг пісьменніцы. Сярод твораў драмы, навелы, апавяды. Назва кнігі «Дом над лугамі» лягла ў аснову назвы музея. Яе кнігі перакладзены больш чым на 16 моў свету. Адметна тое, што з 1923 па 1928 год Соф'я з мужам жылі і працавалі ў Гродна. На жаль, сям'я не мела дзяцей.

Што датычыць супрацоўнікаў музея, то яны чытаюць лекцыі ў школах, выступаюць перад турыстамі, ладзяць тэматычныя вечары і канферэнцыі... Культурнае жыццё віруе і, нягледзячы на пэўныя складанасці, яно цікавае і рознабаковае.

Асноўнае, што вывела для сябе з паездкі -- адчуванне прагрэсу ў польскім жыцці. У палякаў наладжаны быт. Яны не лічаць капейкі так, як мы. У іх 200$ у месяц не грошы, а для нас і 15$ -- вялікая сума. Свабодныя гадзіны ідуць на самаўдасканаленне, творчыя сустрэчы, паездкі, абмены вопытам...

Пасля развалу Саюза польская нацыя ўздыхнула з палёгкай, вызваліўшыся з-пад «бальшавіцкай пяты». За дзесяць мінулых год яна змагла стаць на ногі, узяць курс на ўзнаўленне, адраджэнне, імкненне да агульначалавечых каштоўнасцей. У нас жа па-ранейшаму «ідэалогія, ворагі-буржуі, незлічоная колькасць непатрэбных супярэчлівых законаў, фізічнае выміранне ад хвароб, голаду, непасільных праблем...»

Чаму такое адбываецца з беларусамі? Што гэта: насмешка лёсу? Воля Божая ці Яго кара? А можа ўласная дурасць?

## Халадзільнік-забойца

Менш чым за паўгадзіны згарэў нядаўна жылы дом з надворнымі пабудовамі ў вёсцы Свідна Пастаўскага раёна.Праз пару дзён ад апёкаў памерла гаспадыня-пенсіянерка. На пахаванні суседкі гаравалі, што смерць такая недарэчная... Перад навагоднімі святамі жанчына наняла людзей, каб закалоць кабана.Да адказу запоўніла мясам стары халадзільнік, які і стаў прычынай пажару. Яго вынікі маглі б быць больш суцяшальнымі, каб не адно але.Да бліжэйшай пажарнай часткі па абледзянелай дарозе 20 кіламетраў.А зусім побач цэнтральная сядзіба калгаса «22 партз'езд», дзе ёсць свая пажарная машына. Але, як на грэх, напярэдадні трагедыі, па прычыне дзяржаўнай эканоміі тут не дзяжурыў пажарны разлік. Кошт такой эканоміі -- яшчэ адно загубленае жыццё, якое ў нашай краіне нічога не варта.

## Гаротна плача чукча ў чуме

Калі ў мінулыя гады ў сезон перапрацоўкі на Глыбоцкім кансервавым заводзе працавалі без выхадных у звышнапружаным рэжыме, то зараз толькі ў адну змену. Раней звычайнага, заклаўшы толькі 500 тон капусты, тут спынілі яе прыём, зменшыўшы патрэбныя запасы ў тры разы. Акрамя гэтага на заводзе заашчадзілі 300 тон бульбы, 200 - сталовых буракоў, 70 тон морквы. Маглі б і больш ды стрымлівае завадчан асноўны партнёр -- шклозавод «Гута» Пастаўскага раёна. Слоікаў адтуль хапае ненадоўга, практычна даводзіцца працаваць з калёс. Між іншым, у кансерваўшчыкаў шмат дамоў на пастаўку плодаагароднінай прадукцыі ў аддаленыя запалярныя рэгіёны Расіі, Якуцію, Мурманскую вобласць. Сёння асартымент кансерваў, баршчоў, расольнікаў складае каля сарака відаў, а ў лепшыя гады вітаміннай прадукцыі выраблялі на заводзе больш за 80 найменняў.

**Ул. ШЫК**

## Следства дапускае

Улады Латвіі паведамілі, што арыштаваны імі ў кастрычніку мінулага года чалавек, магчыма, мае дачыненне да забойства расійскага дэпутата Галіны Старавойтавай. Пры вобыску ў яго знойдзены такі ж пісталет, з якога была забіта жанчына.


Фота Ул. Скрабатуна

Некалі берагі рэчкі Сэрвач (яе вы бачыце на фотаздымку) былі звязаны мастом, праз які праходзіў старажытны Докшыцкі гасцінец. Праз той мост можна было наўпрост трапіць з вёскі Завараты ў Докшыцы. На абодвух берагах рэчкі стаялі вёскі, якія адносіліся да Докшыцкага раёна. Колькі дзесяцігоддзяў таму назад мост згніў і разваліўся. Каб не траціць грошы на яго пабудову, докшыцкія ўлады знайшлі выйсце: перадалі абедзве вёскі Глыбоцкаму раёну. Бальшак ператварыўся ў звычайную сцежку, а на месцы маста засталася вузкая кладка, якой карыстаюцца і зараз.

Мясцовыя жыхары згадваюць, што падчас Грамадзянскай вайны на даху блізлеглай капліцы (в. Кіякова) палякі ўстанавілі кулямёт. Пры пераходзе праз мост падраздзялення чырвонаармейскіх войск, палякі знішчылі каля двух дзесяткаў салдат.

На тым беразе рэчкі знаходзіцца вёска Кіякова Докшыцкага раёна, у якой быў маёнтак пана Богдана Кіякоўскага. У наступных нумарах «ВГ» у рубрыцы «Вандроўкі» мы раскажам пра лёс пана і яго маёнтка.

*Ул. Скрабатун.*

## Разбагацеў і на адпачынак?

44-гадовы Біл Гейтс, самы багаты чалавек свету, стваральнік кампаніі-монстра «Майкрасофт», які калісьці прыдумаў камп'ютарныя аперацыйныя сістэмы і можа дазволіць сабе купіць некалькі невялікіх дзяржаў, выйшаў у адстаўку.

## Сагрэць цяплом душы

Па добрай традыцыі напярэдадні навагодніх і калядных свят усім паджылым людзям, якія жывуць у калгасе імя Суворава Пастаўскага раёна, уручылі падарункі. Акрамя гэтага, старшыня гаспадаркі, Герой Сацыялістычнай працы АлегВаладзько прывёз з Германіі яшчэ адзін падарунак на ўсіх...

У сяле Лучай, якое належала продкам роду Агінскіх, з 1776 года дзейнічаў касцёл Святога Тадэуша -- помнік архітэктуры эпохі барока і класіцызму. Пасля перадачы яго прыхаджанам, у канцы 80-х, кіраўнік калгаса прыклаў усе намаганні, каб захаваць старажытны храм у першазданным выглядзе. Зноў заблішчэлі яго купалы, заспяваў арган, радуе вока аднаўлены фрэскавы роспіс. Была адзіная праблема -- з ацяпленнем. Зараз на радасць веруючым, яна вырашана, дзякуючы нямецкай міні-кацельні з праграмным кіраваннем. Святочная імша з нагоды 2000-годдзя хрысціянства стала ў касцёле Святога Тадэуша сапраўднай урачыстасцю.

**Ул. ШЫК**

## Корманарыхтоўкі на марозцы

Упершыню ў сваёй біяграфіі калгас "Усход" Шаркоўшчынскага раёна на зіму застаўся без адзінага кілаграма караняплодаў. Распараная гліна не дала росту ніводнаму бурачку. Складаная сітуацыя прымусіла большасць гаспадарак-суседзяў працягваць нарыхтоўку кармоў у Гродзенскай вобласці. Там пад сняжком яны цюкуюць салому і перавязуць такіх кармоў 4 тыс. тон. Палову саломы ўжо даставілі на фермы, але ў цэлым па рэспубліцы зніжэнне надояў і прываг ужо не спыніць. З-за адсутнасці кармоў летась недаатрымана 759 тон мяса; 829 кароў засталіся без прыплоду. І хоць у разгар мінулай зімоўкі мясцовая міліцыя перакрывала ўсе дарогі, намагаючыся прадухіліць вываз кармоў і жывёлы за межы раёна, эфект быў невялікі. Становішча ў жывёлагадоўлі пагаршаецца.

**Ул. ШЫК**

## Прыгавор Васілю Лявонаву

Былы міністр сельскай гаспадаркі і харчавання В. Лявонаў прыгавораны да 4-х год пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. На працягу 2-х год пасля адбыцця пакарання яму забаронена займаць кіруючыя пасады.

БелТА

## ДЗЁННІКІ ПРОСТАГА СМЯРОТНАГА

Нялюбы муж горай татарына.

❁❁❁

У грамадстве не любяць людзей з абвостраным пачуццём справядлівасці,якія заўсёды «гладзяць» супраць шэрсці.

❁❁❁

Калі Бог захоча пакараць людзей,ён найперш адыме ў яго розум.

❁❁❁

Праўда бывае,як тая сукенка, навыраст.

❁❁❁

Талент -- гэта такая рэч, якую нельга ўкрасці.

❁❁❁

У нас шмат наёмнікаў: адны забіваюць фізічна, другія -- маральна, трэція -- духоўна. Адны знішчаюць цела, другія -- розум і свядомасць, трэція імкнуцца зрабіць яшчэ пры жыцці мёртвай душу. Хто прымушае кожнага з нас быць кілерамі?

❁❁❁

Крочаць за гарызонт дні. Акунаюцца ў вечнасць гады. А я -- маленькае зярнятка кінутае ў бязлітасны жораў млыну часу. Трушчыць мяне, абдзірае, шпурляе, пераўтвараючы ў муку. Але я пахрышчана на мукі і вымушана трываць. Важна адно: не страціць у гэтай крупэрні натуральны белы колер.

❁❁❁

Спрацаванаму, стомленаму і цярплiваму беларускаму працаўніку, упэўнена, некалі паставяць помнік, а аб словаахотлівы ўрад, як аб нікчэмную вяхотку, нацыя вытра ногі. І гэта будзе справядліва.

❁❁❁

Уладзімір Ліпскі: «Дзеці -- яны сёння дзеці, а заўтра -- беларускі народ».

Крымінал.

### ПАСЕЯЛА БАБУЛЬКА МАК

Даўно не было ў судзе Пастаўскага раёна столькі падзыжлых падследчых. Па грознаму 219-аму артыкулу КК РБ, які суліць 10 год пазбаўлення волі, судзілі 76-гадовую жыхарку з вёскі Грыдзькі Лідзію Васільеўну Швед. На сваю бяду яна вырасціла летась мак і сабрала 4 кілаграмы макавай саломкі. Хутка знайшліся пакупнікі, якія пасулілі жанчыне «за салому» 3 мільёны. У час разліку і прадаўца, і пакупніка затрымала міліцыя. Ад турмы старую жанчыну выратавалі ўзрост і дрэннае здароўе. Аднак і 70 мільёнаў рублёў штрафу будуць для яе суровым пакараннем і пры жабрацкай пенсіі паставяць жанчыну на мяжу выжывання.

**У. ШЫК**

Летась нясмелыя дзеткі-куранятки, вучні 1 «А» класа СШ№ 2 г. Глыбокае фатаграфаваліся разам са сваёй першай у жыцці прыгажуняй-настаўніцай Ліліяй Іосіфаўнай Малчун. Шмат часу прайшло пакуль кожны застаўся задаволены сваім месцам: усе хацелі стаць бліжэй да настаўніцы.Праімгнуў час.Дзеці падраслі, пасябравалі, вучацца зараз у другім класе, у таленавітай Ганны Дзмітрыеўны Шаура. Лілія Іосіфаўна ужо завуч школы, але не прамінае выпадку, каб не зазірнуць да сваіх любімцаў. Спытае як справы, усміхнецца, папросіць, каб стараліся вучыцца і былі паслухмянымі.



1 «А» клас СШ№2 г. Глыбокае, 1998 г.

## Да 2000-годдзя хрысціянства



У дзіўным бляску залатой кароны,
Якая так да твару сёння ёй
Ратуе свет пяшчотная Мадонна
Сваёю незямною чысцінёй.

Ратуе свет яе Вялікасць Маці
І Каралева ўсіх зямных падзей,
Схіліўшыся да Сынава распяцця,
Малітвай атуляючы людзей.

І шчырасць слоў, і ласка Маці Божай --
Святое блаславенне на Зямлі.

І да Яе Вялікасці прыгожай
Усе шляхі Сусвету праляглі.

А мы грашым з бяспечнасцю вясёлай
У вечнасці на тоненькай мяжы.
Марыя, Каралева ўсіх Анёлаў,
Самім сябе знайсці нам памажы.

І будзе хай найпершай просьба гэта,
І усхвалюе хай яна Сусвет.
Вітай, Марыя, Каралева свету,
Тваёю ласкай зберажэшца свет.

Ганна Вязіцкая.

### Жыццё якое яно ёсць

Першы бацькоўскі сход у першым для бацькоў шасці і сямігодак навучальным годзе.Хвалююцца мамы і таты і ўпотай чакаюць добрых слоў у адрас сваіх дзяцей. Хвалюецца настаўніца, убачыўшы столькі бацькоў адразу. Праз хвілін дзесяць усё становіцца на свае месцы: настаўніца з упэўненасцю называе прозвішчы лепшых, успамінае тых дзетак,якім прыходзіцца цяжка,просіць бацькоў дапамагчы і падтрымаць сваіх любімцаў.Сход ішоў больш гадзіны.Пад канец адна маці падымаецца і спяшаецца да дзвярэй. Спыніўшыся ля настаўніцы,кажа разгублена: «Можа я пайду? Я, відаць, не ў той клас трапіла.Мой сын займаецца ў другім класе».І выйшла. А мне падумалася: «Што ж тут патрабаваць ад шасцігодкі, калі дарослы чалавек за тры месяцы не запомніў у твар настаўніцу свайго сына, не арыентуецца ў прозвішчах аднакласнікаў і сяброў дзіцяці. Аб якой дапамозе можна гаварыць: спіхнулі ў школу і хай сабе вучыцца,як хоча. Сумная гісторыя з тыпова сумнымі вынікамі».

*Г. Звонка*

Колькі сэрцаў трымаю ў сэрцы сваім -
Цэлы клас!
Колькі дум абуджаю пытаннем адным
- не злічыць!
Колькі доўгіх начэй не дасплю, дарагія
з-за вас,
Каб маленькае кожнае сэрца жыццю
навучыць.

*В. Гарановіч*

# Кожнаму -- сваё!

Жылі на свеце тры сястры. Пакуль былі маленькія, не ведалі ніякіх клапот -- матуля і карміла, і апранала, і песціла. Калі дзяўчатам споўнілася па 17 год, маці памерла. Яны доўга сядзелі ў маркоце, не ведаючы, што рабіць. Ноччу ўсім траім прысніўся аднолькавы сон: жывая матуля прыйшла дадому, села ля агню і расказала дочкам таямніцу. «У далёкай пустыні, дзе губляецца след чалавечы, ёсць месца, на якім раз у год прабіваецца з-пад зямлі цудадзейная крыніца. Дастаткова загадаць жаданне і глынуць глыток вады, як яно адразу споўніцца. Нікому яшчэ не даводзілася знайсці тое месца, але вы паспрабуйце. Памятайце толькі, што жаданне павінна быць адно і яно мусіць зрабіць вас шчаслівымі на ўсё жыццё...»

Раніцой усе трое сабраліся ў дарогу. Яны блукалі па свеце невядома колькі часу, пагублялі ўсе чалавечыя сляды і ўпалі ў знямозе на гарачы пясок. Ляжалі нерухома, быццам мёртвыя, і раптам адна з іх пачула дзіўнае бульканне... У кроках трох біла ўверх крыштальная вадзіца. Змучаныя спякотай, усе трое кінуліся да вады і... успомнілі матуліны словы: «Дастаткова загадаць жаданне і яно споўніцца». Ні першая, ні другая дачка не ўспомнілі апошнія матуліны словы і паспяшалі загадаць патаемнае. Але што ж папрасіць у крынічкі? Сярэдняя нагадала, як з яе заўсёды кпілі аднагодкі: і нос у яе доўгі, і вушы тырчком, і прычоска абы якая. Не доўга думаючы, яна сказала: «Хачу, каб я была прыгажуняй і ўвесь свет каб дзівіўся маім тварам». Малодшая ўспомніла сваю бедную хаціну, зацыраваныя сукенкі, паўпустыя міскі і пажадала шмат грошай і каб ніколі не быць жабрачкай. Толькі старэйшая сястра сэрцам адчула матуліну навуку: «... жаданне павінна быць толькі адно і яно мусіць зрабіць вас шчаслівымі на ўсё жыццё» і папрасіла: «Калі такое магчыма, дай мне, крынічка, Дар адчуваць шчасце ў кожнай хвіліне пражытага дня...

Дамоў вярталіся ўзрушаныя і шчаслівыя: адна -- з прыгожым тварам, другая -- з грашыма, трэцяя -- з Дарам.

Прайшлі гады. Увесь гэты час найбольшым клопатам сярэдняй сястры было сачыць за ўласнай прыгажосцю. Больш яна нікога і нічога не бачыла. Першая маршчынка стала для яе трагедыяй...

Малодшая толькі і рабіла, што хавала грошы і баялася, каб іх ніхто не ўкраў. Больш ні аб кім і ні аб чым не думала. Самым няшчасным днём у жыцці, як яна лічыла, стаў дзень, калі злодзей абрабаваў яе...

Самую ж старэйшую клапаціла толькі адно: каб не згас дзень і не знікла ўся гэта зямная прыгажосць. У дажджынцы і промні, у травінцы і зорцы, у слязах і радасці яна знаходзіла прыгажосць, багацце і сапраўднае шчасце. Атрыманы Дар дапамог ёй пражыць жыццё, набываючы скарб. Грошы ж і прыгажосць сясцёр саслужылі ім дрэнную службу: гонячыся за малым, яны страцілі большае -- шчаслівае жыццё.

Прыгожы твар з цягам часу ператвараецца ў тлен. Нават вялікія грошы робяцца прахам. І толькі Дар, нябачны, але вечны, стане тым найкаштоўным скарбам, які не купіць ні за якія грошы Сусвету...

Дар -- гэта празмерная Вера ў тое, што мы ў Бога не апошнія. А сапраўдную Веру нельга выпадкова знайсці, купіць танна ці ў тры дарагі, сапраўдную Веру можна толькі «выстрадать».

**Галіна СУТУЛА**



Які чароўны навакольны свет! Хоць хадзіць пакуль і не магу, але любавацца гэтай прыгажосцю здольны!

## НЕ ГАНІЦЕСЯ ЗА ПРЫГАЖОСЦЮ, А ІМКНІЦЕСЯ ДА РОЗУМУ!

«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 27 студзеня 2000 года ў 22-43.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 12

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 764